# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 2 (30). Люты 1993 г. Цана 3 руб.


## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



## Давайце паспрабуем

У новым, 1993 годзе ў нас з'явілася магчымасць часцей сустракацца з Вамі, дарагія чытачы. Але для гэтага прыйшлося амаль напалову паменшыць наклад выдання, каб зэканомленую паперу выкарыстаць для штотыднёвага выпуску газеты. Гэта дазволіць аператыўней адклікацца на найважнейшыя падзеі жыцця.

Зразумела, частата нашых сустрэч ці не ў першую чаргу будзе залежаць ад узроўню цэнаў на паперу й друкарскія паслугі. І не ў апошнюю—ад дапамогі матэрыяламі пазаштатных аўтараў.

Рэдакцыя «Выбара».

## Нашы ў «Медэі»





Ірына МАГУЧАЯ. «Дзяўчына ў капялюшыку». 1989 г.

* * *

Вольга ПАГАРЭЛАВА. «Дрэва ля вады». 1992 г.

Менская прыватная галерэя «Медэя», адзін з новастворaных асяродкаў мастацкага жыцця сталіцы, прэтэндуе сёння на званне аднаго з заканадаўцаў «моды» ў галіне мастацкага бізнесу.

Тут на працягу студзеня экспанавалася выстава дзвюх маладых мастачак з Віцебску Ірыны Магучай ды Вольгі Пагарэлавай, якія паказалі менчукам каля 60 пастэляў, створаных на працягу апошніх 3—4 гадоў.

Больш вядомая віцебскаму гледачу творчасць Ірыны Магучай (успомнім нядаўнюю выставу «Агні карнавалу») была прадстаўлена шэрагам рамантычных кампазіцыяў з карнавальнага цыклу ды некалькімі цудоўнымі жаночымі партрэтамі, у якіх мастачка апявае ўзнёслае хараство жаночае душы, што ў наш жорсткі час жыве затоенымі марамі ахвярнае любові.

Вольгу Пагарэлаву з Ірынай яднае не толькі даўняя дружба і сумесная вучоба на мастацкім факультэце, дзе яны правялі ці не шчаслівейшыя гады свайго юнацтва, але, мо, найперш, духоўная блізкасць разумення мастацтва ды тая няўлоўная радасць успрымання свету, якую выпраменьваюць іх вытанчаныя творы, складзеныя рухамі крылатае душы.

У агульнай экспазіцыі пастэлі Вольгі Пагарэлавай так добра дапаўнялі рамантычную экспрэсію твораў Ірыны Магучай затоенай гармоніяй адухоўленага пейзажу, які ва ўсіх варыяцыях пластычна-каляровага строю пранізвае трапяткая мелодыя яднання з Богам.

**Алесь МЕМУС.**

## Чым адкажуць беларусы?

Па запрашэнню міністэрства культуры і мастацтва Польшчы ў гэтай краіне пабывала дэлегацыя беларускіх журналістаў з «Народнай газеты», «ЛІМа», «Культуры» і нашага выдання. Польскі бок мяркуе і надалей працягваць кантакты з работнікамі сродкаў масавай інфармацыі сумежных дзяржаў з мэтаю іхняга больш глыбокага азнаямлення са здабыткамі польскае культуры.

**Ю. СЦЯПАНАЎ.**

## «ДЫСКУСІЙ НЕ БУДЗЕ!»

Судовая калегія па грамадзянскіх справах аблсуда палічыла аргументы, што выкладзены ў прыватнай скарзе галоўнага рэдактара газеты «Выбар» Б. Хамайды, абгрунтаванымі й адмяніла пастанову народнага суда Чыгуначнага раёна Віцебска аб накіраванні іскавой заявы І. Авіна ў суд Маскоўскага раёна Менска.

Касацыйная інстанцыя вырашыла другі раз накіраваць гэтую справу ў народны суд Чыгуначнага раёна абласнога цэнтра для разгляду па сутнасці.

**В. ФЕМІДАЎ.**

*Не верыцца*

## БЫВАЙ, МІЛІЦЫЯ!

Што б ні гаварылі, але ж дэмакратыя прабіваецца праз таталітарную руціну: у Віцебскім гарвыканкаме (былы будынак абкама КПБ) зняты міліцэйскі пост.

Цяпер у фае наведвальнікаў сустракае дзяжурны работнік гарвыканкама, а не ахоўнік у пагонах.

**У. ПЯТРОК.**

## Анонс

**В. Вячорка:** «Мы толькі ступілі на шлях Адраджэння і нялёгкая дарога чакае нас наперадзе. Галоўнае—не блукаць упоцемку, а адразу ступіць на патрэбную дарогу і настойліва ісці ўперад».

**Інтэрв'ю з адным з дзеячоў нацыянальнага Адраджэння Вінцуком Вячоркай чытайце ў наступным нумары.**

*У мясцовых філіях*

## ВЯРХІ ПРАВЯЛІ. НІЗЫ АБМЕРКАВАЛІ

Адбыўся сход Віцебскай гарадской філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Абмеркаваны вынікі II з'езда і пленума Цэнтральнай Рады партыі.

Дарэчы, чарговае паседжанне віцебскіх грамадоўцаў будзе прысвечана падрыхтоўцы да выбараў.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

## АБКАМ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

Створана Віцебская абласная партыйная арганізацыя БСДГ, старшынёй якой выбраны народны дэпутат Беларусі Віктар Какоўка.

**Ю. С.**

## ПРЫЙДУЦЬ ДА ВЫБАРАЎ З ГРАШЫМА!

Віцебскія сацыял-дэмакраты адкрылі свой разліковы рахунак у Віцебскім камерцыйным банку (№ 200700687, код МФО 150801701).

**Ю.Т.**

## Паважаныя сябры і прыхільнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады!

*Матэрыялы II з'езда БСДГ, а таксама матэрыялы па гісторыі сацыял-дэмакратычнага руху ў Беларусі вы можаце набыць у штаб-кватэры Грамады. Звяртайцеся па сталічным тэлефоне 46-46-91 або пішыце на адрас: 220026, г. Менск, а/с № 129. Аплата па дамоўленасці.*

**Патрабуецца** *выкладчык беларускай мовы (тэл. 4-00-34).*

# ПРА ІНФАРМАЦЫЙНУЮ ПАЛІТЫКУ

## Заява Сойму БНФ

Беларускі Народны Фронт заўсёды разглядаў свабоду слова як найважнейшы прынцып дэмакратычнага грамадства, дзе кожны павінен мець гарантаванае права выказвання думак і перакананьняў. Але і пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў інфармацыйнай палітыцы Вярхоўнага Савету і ўраду пануюць і нават мацнеюць таталітарныя традыцыі.

Напачатку 1992 г. газэты й часопісы перад пагрозай фінансавага краху адзін за адным перайшлі пад заснавальніцтва Савету Міністраў. Прыкрываючыся заявамі аб «выратаваньні прэсы», Саўмін з маўклівае згоды Міністэрства інфармацыі перадаў найбуйнейшае выдавецтва «Беларускі Дом друку» свайму гаспадарчаму ўпраўленьню. Журналістам далі зразумець, што іх месца—сярод абслугі намэнклятуры.

Ціск на пэрыядычныя выданьні, на тэле- і радыёрэдакцыі павялічыўся ў час падрыхтоўкі да рэфэрэндуму. Досыць прыгадаць ганеньні на праграму «НІКа». Міністэрства інфармацыі адмовілася забясьпечыць законнае права дэпутацкай апазіцыі мець пастаянны эфірны час на радыё і тэлебачаньні.

Нарэшце, на пачатку гэтага году без папярэджаньня, экспэртызы і судовай працэдуры ўлады спынілі трансляцыю перадачаў незалежных тэлекампаніяў, чым яшчэ раз прадэманстравалі пасьлядоўнае імкненьне ўстанавіць татальны кантроль над усімі каналамі інфармацыі.

Урад не мае канцэпцыі інфармацыйнае палітыкі, якая б зыходзіла з інтарэсаў, сувэрэнітэту Беларусі. Толькі ў 1992 г. Беларусь унесла паўмільярда рублёў на ўтрыманьне тэлекампаніі «Астанкіна», якая так і ня стала крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі пра падзеі на Беларусі і ў іншых, акрамя Расеі, дзяржавах СНД. Паўстае ўражаньне, што месца на гэтым канале знаходзіцца толькі для рэгіёнаў, дзе льецца кроў.

На ўсё вышэйсказанае Беларускі Народны Фронт і дэпутаты апазіцыі шматразова зьвярталі ўвагу ў заявах і выступах. Мы зноў канстатуем супярэчнасьць дзеяньняў ураду і Міністэрства інфармацыі прынцыпам свабоды слова ды інтарэсам беларускае дзяржавы.

Беларускі Народны Фронт лічыць, што першачарговым крокам інфармацыйнай палітыкі Беларусі павінна стаць прыняцьцё Закону аб свабодзе друку, які б гарантаваў журналістам і ўсім грамадзянам бесьперашкодны доступ да інфармацыі і поўную магчымасьць выказваць пагляды й перакананьні. Гэты Закон стаў бы заслонай на шляху антыдзяржаўнай, антыканстытуцыйнай прапаганды.

БНФ выступае за дэманапалізацыю сродкаў масавай інфармацыі. Праект адпаведнае пастановы яшчэ ў кастрычніку летась падаваўся на разгляд Вярхоўнага Савету Апазіцыяй БНФ і прадугледжваў немэтазгоднасьць заснавальніцтва Саветам Міністраў больш як аднаго пэрыядычнага выданьня (інфармацыйнага бюлетэню). Пры гэтым газэтам і часопісам прынамсі на год гарантавалася б дзяржаўнае фінансаваньне.

Інфармацыйная палітыка павінна садзейнічаць узьнікненьню й развіцьцю незалежных тэле- і радыёкампаніяў, пэрыядычных выданьняў, інфармацыйных агенцтваў, наколькі яны пашыраюць свабодную інфармацыйную прастору, ствараюць альтэрнатыву дзяржаўным СМІ і таму спрыяюць падвышэньню агульнага ўзроўню апэратыўнасьці, якасьці, дзейснасьці прэсы. Неабходна выправіць ненармальнае становішча, калі грамадзянам Беларусі фактычна навязваецца маскоўская трактоўка падзеяў у сьвеце, і далучыць Беларусь да сусьветнае інфармацыйнае прасторы. Відавочная неабходнасьць паляпшэньня матэрыяльна-тэхнічнае базы нацыянальнага тэлебачаньня й радыё, падвышэньня прафэсіяналізму беларускіх журналістаў, радыкальных кадравых зьменаў у кіраўніцтве дзяржаўных СМІ.

БНФ «Адраджэньне» выступае за няўхільнае выкананьне дзяржаўнымі й прыватнымі сродкамі інфармацыі Закону аб мовах. Эфектыўным спосабам ажыцьцяўленьня прыярытэту дзяржаўнае мовы стала б скасаваньне на бліжэйшыя гады ўсіх падаткаў для цалкам беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі.

Мы выступаем за кантроль грамадства над зьместам як дзяржаўных, так і прыватных тэлерадыёпраграмаў і выданьняў, які б бараніў дзяцей і падлеткаў ад праяваў маральнай разбэшчанасьці. Гэты кантроль павінен ажыцьцяўляцца на цьвёрда вызначаных Законам падставах.

Мы добра разумеем, што радыкальныя зьмены да лепшага ў інфармацыйнай палітыцы немагчымыя пры захаваньні ўлады намэнклятуры. Таталітарны кантроль над прэсай павінен саступіць месца панаваньню цывілізаваных дэмакратычных прынцыпаў свабоды слова і інфармацыі. Змаганьне за гэтыя прынцыпы—надзённая задача дэмакратычных сілаў краіны.

## ПЕРШЫ ПАСЛЯ З'ЕЗДА

**Першы пасля другога з'езда Грамады Пленум Цэнтральнай Рады БСДГ адбыўся ў Менску 23 студзеня 1993 года.**

Спачатку быў абраны новы выканаўчы орган партыі—выканкам Грамады ў складзе 23 чалавек. Кіраўніком спраў ЦР БСДГ зноў прызначаны Мікола Кійка.

Было вырашана, што пры выпадку адсутнасці ці хваробы старшыні ЦР БСДГ яго абавязкі будуць ускладацца на аднаго з намеснікаў старшыні—народнага дэпутата Беларусі Міколу Крыжаноўскага.

Цэнтральная Рада Грамады палічыла мэтазгодным увайсці ў склад заснавальнікаў Фонда братоў Луцкевічаў—стваральнікаў сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі.

Былі таксама створаны восем пастаянных камісій ЦР БСДГ. Сярод іх можна вылучыць Камісію па эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму развіццю (старшыня—прафесар Уладзімір Кулажанка), Камісію па сувязях з прафсаюзамі (старшыня Уладзімір Васькові), Камісію па міжнародных справах і сувязях з сацыял-дэмакратычным рухам за межамі Беларусі (старшыня Міхась Патрэба) і Камісію па вайсковых пытаннях (старшыня—падпалкоўнік Мікалай Бюрукоў).

У той жа дзень адбыліся абласныя канферэнцыі Грамады. Менскую абласную раду БСДГ узначаліў народны дэпутат Беларусі Лявон Дзейка, Віцебскую—народны дэпутат Беларусі Віктар Какоўка, а Гародзенскую—сябра гародзенскай гарадской філіі Грамады спадар М. Слесарчук. ЦР Грамады прыняла таксама рашэнне ўвайсці ў аргкамітэт па падрыхтоўцы святкавання 75 угодкаў абвяшчэння БНР. На гэтыя мэты было выдаткавана 10000 рублёў.

**Старшыня ЦР БСДГ Алег ТРУСАЎ.**

# Узнаўляючы спадчыну продкаў

**ІНТЭРВ'Ю З ДЫРЭКТАРАМ «ВІЦЕБСКАБЛРЭСТАЎРАЦЫІ» А. ЖАВАРАНКАВЫМ**

**—Паважаны Аркадзь Пракоф'евіч, раскажыце, калі ласка, аб прадпрыемстве, якое Вы ўзначальваеце.**

—«Віцебскаблрэстаўрацыя» створана па загаду міністра культуры Беларусі ў лістападзе 1987 года. Нядаўна мы адзначылі пяцігадовы юбілей свайго прадпрыемства. Нам уручылі Ганаровыя граматы ад упраўлення культуры аблвыканкама, Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка, каштоўныя падарункі ад іншых заказчыкаў. Трэба адзначыць, што прадпрыемства ўзнікла практычна на голым месцы, таму з самага пачатку было шмат цяжкасцей са станаўленнем калектыву, кадравых і фінансавых праблемы. Паступова, спазнаўшы спецыфіку нашага прадпрыемства, аматары лёгкага хлеба «адсейваліся», і цяпер у нас засталіся толькі шчыра ўлюбёныя ў справу аднаўлення даўніны людзі. Яны кваліфікаваныя майстры разьбы па дрэве, чаканкі, кавальскай справы, па дахаваму пакрыццю і г. д. А асабліва́сць нашага прадпрыемства ў тым, што амаль усю працу выконваем ўручную. Таму адданасць сваёй справе і ўмелыя рукі—асноўнае, што характэрна для нашых працаўнікоў.

**—Пяць гадоў—тэрмін параўнальна невялікі, але ўсё ж нейкія вынікі падвесці можна. Якія помнікі даўніны, спадчына нашых продкаў, адноўлены за гэты час на Віцебшчыне!**

—Назаву толькі найбольш значныя помнікі культуры й архітэктуры, якія мы, можна сказаць, узнялі з небыцця. Гэта брацкая школа і калегіум езуітаў у Полацку, дача І. Рэпіна ў Здраўневе ля Віцебска, Пакроўская царква і касцёл святой Варвары ў Віцебску, царква Аляксандра Неўскага ў в. Крапіўна пад Оршай. У Оршы—Куцеінскі манастыр і вадзяны млын на Дняпры. Заканчваем рэстаўрацыю царквы ва Ушацкім раёне. У Віцебску, акрамя ўжо названых культавых пабудоў, аднавілі старадаўні будынак па вул. Савецкай Арміі, у якім будзе размяшчацца дзіцячая мастацкая школа. Адрэстаўрыравалі будынак літаратурнага і абсталявалі пamяшканне для мастацкага музеяў. удзельнічалі разам з іншымі арганізацыямі ў рэстаўрацыі ратушы—гмаху абласнога краязнаўчага музея. Вынікам гэтых пяці гадоў можна лічыць і тое, што філіялы нашага прадпрыемства створаны ў Полацку дый Оршы. Як бачым, зроблена не так ужо і мала, асабліва калі ўлічыць, што ў працы нам прыходзіцца пераадольваць шматлікія цяжкасці, звязаныя з агульным крызісам эканомікі.

**—Якія праблемы стаяць цяпер перад Вашым калектывам!**

—Асноўныя нашы заказчыкі—прадпрыемствы культуры, якія фінансуюцца з дзяржбюджэту. Агульнавядома, што робіцца гэта паводле так званага «рэшткавага» метаду. Паколькі гэтыя прадпрыемствы самі знаходзяцца ў складаным становішчы, яны не пералічваюць грошы за выкананыя намі работы. Ёсць у нас цяжкасці з транспартам, з абсталяваннем, якое значна зносілася і састарэла, з набыццём матэрыялаў. Да апошняга часу на нашым прадпрыемстве зусім не вырашалася жыллёвая праблема. Але мы ўсё ж такі змаглі пачаць будаўніцтва свайго 37-кватэрнага дома. Хоць справы тут ідуць марудна—з-за дэфіцыту тых жа фінансавых сродкаў. Карыстаючыся выпадкам, хачу праз вашу газету звярнуцца да Вярхоўнага Савета, урада, кіраўніцтва Віцебскага аблсавета з просьбай дапамагчы нам—пералічыць у 1993 годзе неабходныя сродкі для вырашэння нашых вытворчых і сацыяльных праблем.

**—Будзем спадзявацца, што гаспадары высокіх кабінетаў у Менску і Віцебску пачуюць Ваш заклік і, можа, усвядомяць: дзяржава, якая не клапоціцца пра захаванне гістарычнай спадчыны, не мае будучыні. Дзякую за гутарку.**

Інтэрв'ю ўзяў **А. БУКАЧОЎ.**

## «Наш сімвал— Пагоня»

*Такую назву носіць новая кніжка, што выйшла ў выдавецтве «Полымя». Добра ілюстраваны гістарычны твор А. Цітова дае магчымасць прасачыць «шлях праз стагоддзі» Дзяржаўнага герба Беларусі.*

**М. ВАЛАЧОБНІК.**




## ЁСЦЬ АРЫГІНАЛЫ

Аматары творчасці Шагала атрымалі шчэ адну магчывасць спазнаць мастакоўскі свет вялікага віцябляніна. У Арт-цэнтры адкрылася экспазіцыя рэпрадукцый яго работ, якія адноўлены пошукі Майстра на працягу ўсяго творчага жыцця.

Чакаю ад мяйсцовых прыхільнікаў Мастака законнага пытання: «Рэпрадукцыі—гэта добра, а калі ж будуць арыгінальныя карціны?» Яны ўжо ёсць! На выставе можна пабачыць «Нядзелю» і тры працы з цыклу 60-х гадоў «За люстэркам».

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

**Давид СИМАНОВИЧ:** монолог на еврейские темы

# «Имею честь принадлежать...»



**Давид Симанович—поэт, которого каждый раз открываешь для себя заново. Так случилось и на сей раз, когда мы прочли предложенные им нашей газете стихи на еврейские темы.**

**45 лет минуло с того чудесного мгновенья, когда Давид Симанович впервые увидел в областной газете свои стихи. Потом они появились в республиканской прессе, а вскоре не где-нибудь, а в журнале «Новый мир». Это издание в те особенно тяжкие для творческой интеллигенции годы было доброй совестью писателей. Константин Симонов стал крёстным литературным отцом Симановича. Сегодняшний итог творческого пути поэта и прозаика весом: 15 книжек. Весьма интересными для нашей газеты показались нигде ранее не публиковавшиеся его стихи на еврейские темы.**

**Не станем навязывать своё мнение читателям о предлагаемой второй полосе этих стихов. Скажем только: они зримо, яростно обнажают в сердце потребность человеческого счастья. А его хватило бы с избытком всем людям на Земле, если бы они решительно отступились от зла и национальных предрассудков.**

**«Имею честь принадлежать к тому гонимому народу...» Эти строчки взяты из первой полосы стихов на еврейские темы, опубликованной в нашей газете 8 июля 1992 года.**

Вспоминаю с отцом
родословную—
ничего в ней особого нет.
Но порою мне кажется, словно я
прадед дальний,
что в шкуру одет.

Иль прабака, как время,
усталая.
А дороге не видно конца.
И дрожит голова ее старая,
на которой печется маца.
**1967**

* * *

Полесье—детства материк.
Он светит мне издалека.
На лавочке сидит старик—
я знаю: он сидит века.

Он мой отец. Бессмертен он,
как этот синий небосклон,
как эти желтые поля,
где, может быть, бессмертен я.
**1984**

* * *

В пятницу у крылечка
**я порхаю, как стриж.**
В пятницу ставится свечка,
в пятницу славится фиш.

В пятницу бабкин клекот,
молитвы ее, как сны.
Все это—так далеко,
все это—до войны.

В пятницу просят Бога
спасти от хвори и ссор.
Но падает черная бомба
в старый еврейский двор.

Пламя коричневым чертом
пишет на доме «юд».
И со звездою желтой
бабку в гетто ведут.

В пятницу, в хмурый вечер,
тьмою окружена,
тоненькая, как свечка,
тихо гаснет она.
**1969**

* * *

Был еврейский Новый год
на исходе сентября.
И устала от забот,
и присела мать моя.

Леках источает пар—
он прекрасен в этот миг,
как коричневый загар
на руках ее больших.
Праздников еврейских дни
далеко, как детства свет...
Мама, мама, отдохни...
Отдыхает много лет.
**1984**

## На еврейском кладбище

Недоступный аду или раю,
постояв не у одной плиты,
трижды через голову бросаю
желтого бессмертника цветы.

Дань ушедшим—так велит
обычай—
увядая, падает на мох.
И квадрат кладбища, миром
бывший,
сторож запирает на замок.

За оградой остается дед мой,
пулею петлюровской убит.
Мне осталось от него
в наследье
только имя царское—Давид.

И опять глядит сурово брат мой,
заслонивший родину в беде.
Он выходит из могилы
братской,
хоть его могилы нет нигде.

Тихо поднимаются евреи,
родину любившие свою...
У ограды каменной, робея,
перед ними я, живой, стою.

Не стрелявший, смерти не
видавший,
что я знаю, что постиг уже?
Я себе не отвечаю даже.
Это глубоко в моей душе.

Трижды через голову бросаю
желтые бессмертники в траву.
Ухожу. И жизнью отвечаю.
И, как их бессмертие, живу.
**1966**

* * *

**А. Заводнику**

**Сам во мрак забвения канешь,**
если предков забудешь своих.
Это служба памяти—кадиш,
как помин на дорогах земных.

И не звуки классических
клавиш—
поминальной молитвы слова.
Это служба древняя—кадиш,
это значит: память жива.

Память Пэна, память Шагала,
память всех, кого скрыла ночь,
и кого судьба не сломала,
и кого смогла превозмочь.

Плач молитвы—как будто
стонет
весь народ мой—и стар,
и мал—
в память о шести миллионах,
обо всех, кого потерял.
**1992**

* * *

К иной судьбе и к иному
краю
на бесконечных путях бытия
будет приписана дочь моя.
И только горькое
«не возражаю»
должен безропотно вывести я.

И, у нотариуса сидя,
я вывожу, и рука не дрожит.
Пусть живет, не слыша, не видя,
как кто-то прошипит, ненавидя,
ей и мне «жидовка и жид»...

Пусть ее встретит иная даль...
Что же в душе такая печаль?..
**1990**

* * *

**Там далеко, на древней земле,**
**где солнца власть и свободы**
власть,
дочь моя у судьбы на крыле
держится—дай ей Бог не упасть.

Духом не пасть и не пропасть
в мире огромном, в кольце
дорог,
и не попасть к горю в пасть,
**остаться собою дай ей Бог.**

А дней и ночей круговорот
в годы накапливается уже:
**Рош -а-Шана—Новый год**
и праздник шалаша—Суккот,
когда с любимым рай в шалаше.

Диковинный край—наш и
не наш.
Но тянется в небо родной
шалаш.
Там далеко, на библейской
земле,
**будь, моя дочь, у судьбы**
на крыле.
**1991**

* * *

**Лене**

И в Хайфе выпал снег,
как в Витебске у нас,
такой и не такой,
кружился он, ласкаясь.
И на виду у всех
стояла ты, смеясь,
в витрине городской
беспечно отражаясь.

Как этот чистый снег,
как детства дальний звон,
над Витьбой и Двиной
не позабудешь край ты.
И твой задорный смех
летит за горизонт,
наполнив шар земной
от Витебска до Хайфы.
**1992**

* * *

Два старых стула Маша
обещала—
свое добро, дарение свое,
чтоб на Покровской в домике
Шагала
украсили музейное жилье.

Посланники забытые из ранних
шагаловских невозвратимых
лет...
А Маша собирается в Израиль,
в ее глазах—уже разлуки свет.

Разлуки с той землей, где
вырастала
у Витьбы и Двины—негромких
рек,
где будут в тихом домике
Шагала
два старых стула коротать
свой век.
**1992**

* * *

**Философа ремесло**
ему не приносит дохода.
Спиноза шлифует стекло,
чтоб было синей небосвода.

Зачем ему эта синь?
Он знает белый и черный,
еврейской общины сын,
уже от нее отлученный.

И неизвестно ему,
что сам у себя он пленник.
А солнечную синеву
прославит его соплеменник.

Потомки увидят вдруг,
как свет поэзии в прозе,
в Шагале—Спинозы дух,
шагаловский дух—в Спинозе.
**1992**

* * *

День пропах антоновкой и
мятой,
и дымок прощанья горьковатый
вьется от вечернего костра
с берега высокого Днепра.
Осень. Птицам улетать пора...

**Перед старой дедовскою**
хатой
ты стоишь с улыбкой виноватой,
хоть ни в чем не виноват ты,
брат мой.
Самолет на Тель-Авив с утра.
В добрый час! Ни пуха ни пера!
**1992**

* * *

Опять уезжают евреи—
друзья и родные мои.
Их, Боже, на родине древней
от горя спаси и храни.

Пусть мир о погромах и гетто
узнает лишь только из книг...
И если ты выполнишь это—
Ты, Боже, и вправду велик.
**1992**

* * *

В старом оркестре
с маленькой скрипкой своей
остался на месте
этот последний еврей.

Зал замирает
перед полетом смычка.
Души терзает
музыки вечной тоска.

Было в оркестре
много друзей-скрипачей.
Остался на месте
этот последний еврей.

Кто-то в Израиль
уехал, играет в кафе.
Кого-то изгнали—
тоже по пятой графе.

Музыки крылья.
В зале стоит тишина...
Что натворила
сама ты с собою, страна?

Разве воскреснешь,
лучших теряя детей?..
В старом оркестре
остался последний еврей.
**1993**

